НАША СВАБОДА

№53 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 ЖНІЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.3




# Грязным выборам – грязные кандидаты!

УВАЖАЕМЫЕ КАНДИДАТЫ В ДЕПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ!

Редакция газеты НАША СВАБОДА принимает в неограниченном количестве компрометирующие материалы на ваших соперников по выборам. В отличие от других респектабельных газет, все, что вы пришлете, мы опубликуем совершенно бесплатно. Собирайте самые отвратительные, самые мерзкие, паскудные, подлые, гадкие и дурно пахнущие факты из жизни и общественной деятельности других кандидатов, недостойных, по вашему мнению, занимать ваши места в Палате представителей. Не позвольте им ввести в заблуждение доверчивых избирателей при помощи той белиберды, чепухи, галиматьи и словесного мусора, которые накопились в их головах за все годы недостойного, позорного существования на этой Земле! Пусть же шарахаются от них люди на улицах городов и сел! Пусть же земля горит под ногами негодяев, идущих на выборы по тем же избирательным участкам, что и вы! Жизнь – это борьба!

Запомните, что нет на свете людей без пороков! Все запачканы уже с момента рождения. У каждого смертного есть свой скелет в шкафу, свои гаденькие жалкие страстишки. Вскройте язвы! Обнажите зло! Сейчас или никогда! Наймите опытных специалистов (их уже много в нашей стране), отдайте все деньги, снимите последние штаны, но раздобудьте разоблачительные материалы на ваших соперников. Иначе они это сделают раньше вас, уничтожат, публично осмеют, надругаются над вашим светлым образом, идеалами, мечтами, лишат вас всяких перспектив стать большим начальником, устроить свою жизнь и жизнь своих детей на халяву, за счет государства.




УВАЖАЕМЫЕ ДЕПУТАТЫ НЫНЕШНЕЙ ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ!

Не позволяйте всяким самозванцам и прощелыгам со стороны занимать ваши законные, Богом данные, честно заслуженные, гарантированные только вам места в таком теплом, комфортабельном месте, как Палата представителей! За что же вы боролись изо всех сил? За что страдали все эти годы и сносили оскорбления? О, ваши соперники! О, эти порождения ехидны! Это люди другой генерации, неизмеримо нахальнее, увереннее, закаленнее. В отличие от вас, они жили в реальной жизни. Изведали холод, голод, нужду, ненастья. Их уже били в подворотнях и травили в газетах. У них иммунитет, как у тараканов. Оглянитесь в ужасе и трепете! Они бегут на все готовенькое, радостно потирая свои влажные ручки, злобно хихикая. Они полируют уже ваши стулья своими фланельками, укладывают на них свои подушечки от геморроя. Они вас не пожалеют, они вас перекусят пополам. Все, все, все отнимут навсегда. Что же тогда будут кушать ваши детки и женушки, ваши внучки и правнучки, ваши племянницы и просто любимые женщинки? Бедные вы бедные!

Знайте, что на каждого из вас у соперников уже есть во-о-о-от такие огромные портфели с компроматом. Такие, что просто ручки отрываются. Большие могут быть только у Самого Президента, который смотрит в этот час на вас сверху терпеливо, милостиво и участливо. Знайте, что Он любит вас, как Свои создания. Он не даст извергам надругаться над вами.

Смело, товарищи, в ногу! Выступайте единым фронтом. Бейте врага на дальних подступах, пишите к нам в газету о них всю правду, которую можно только придумать. И ничего не бойтесь, потому что победителей не судят. А если и судят, то свои люди. Покажите, что есть еще порох в пороховницах!

Успехов вам!

## НАВІНЫ

■ **Пажар на Астанкінскай тэлевежы ўдалося лакалізаваць.** Ён перайшоў у вялацякучую форму, але пяты, вышэйшы нумар катэгорыі складанасці пажару, не адменены. Пажарныя знайшлі і эвакуавалі з вежы дзяўчыну-ліфцёрку, якая апынулася ў ліфце ў момант пажару. Але дагэтуль невядомы лёс астатніх прапаўшых, у прыватнасці, намесніка начальніка Упраўлення супраць-пажарнай службы Паўночна-ўсходняй акругі Масквы. Ёсць небяспека захавання і самой тэлевышкі. Спецыялісты ўжо зараз кажуць, што верхнюю металічную частку (100-метровы шпіль) Астанкіна давядзецца дэмантаваць. Дырэктар «Спецжалезабетонбуда», які ўзводзіў вежу, кажа, што пажар ужо знішчыў 50% тросаў, што трымаюць канструкцыю ў вертыкальным стане, і, калі падымецца моцны вецер, яна пачне, прынамсі, раскачвацца.

■ **Урад ЗША пагражае ўвесці супраць Японіі гандлёвыя санкцыі, калі тая не будзе і надалей выконваць сусветны мараторый на здабычу кітоў.** Паляванне на кітоў забароненае з 1996 года, але японцы штогод забіваюць іх сотні, сцвярджаючы, што робяць гэта не з камерцыйнымі, а з навуковымі мэтамі. У сувязі з чарговым паведамленнем афіцыйнага Токіо, што тамтэйшыя кітабоі бліжэйшым часам збіраюцца змардаваць яшчэ 60, і выклікала негатыўную рэакцыю амерыканцаў. Іхні міністр гандлю Норман Майніта заявіў, што «трывожыць тое, што пасля гэтага палявання мяса кітоў апынецца ў крамах і ў меню рэстарацыяў».

■ **Прэзідэнт Тайваня Чэнь Шуйбянь заявіў, што гэтая выспа не возьме прыклад з Ганконга і Макао ў пытанні аб'яднання з Кітаем.** Разам з тым ён сказаў, што будучыня дачыненняў паміж краінамі застаецца адкрытай тэмай і ўсё будзе залежаць ад волевыяўлення тайваньскага народа. Пекін жа настойвае на аб'яднанні па прынцыпе «Адзін Кітай – дзве грамадскія сістэмы», паводле якога ужо адбылося далучэнне да КНР Ганконга і Макао. Але Чэнь Шуйбянь адмовіўся нават ачоліць Раду нацыянальнага аб'яднання, створаную папярэднім тайваньскім прэзідэнтам.

## АГП скажа апошняе слова

**Рыгор БУЯН**

3 верасня Аб'яднаная грамадзянская партыя збярэ другую сесію 5-га з'езда партыі, на якой канчаткова вызначыцца з пазіцыяй адносна кастрычніцкіх выбараў у палату. Фармат свайго ўдзелу ў «выбарчым фарсе» Палітсавет АГП вызначыў як «актыўны байкот». Аднак прыкладна 10-я частка кіраўніцтва АГП выступае за ўдзел у выбарах. На гэтай глебе прыхільнік удзелу ў выбарах ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч пагражае выхадам з партыі, кіраўнік маладзёжнага крыла – арганізацыі «Грамадзянскі форум» Уладзімір Навасяд ужо зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу ў Купалаўскай выбарчай акрузе №95 Мінска. Так што ў палітычным закуліссі ходзяць гаворкі пра блізкі раскол АГП. Аднак старшыня АГП Анатоль Лябедзька абвяргае падобныя чуткі і сцвярджае, што з'езд склікаецца дзеля канчатковага вызначэння пазіцыі, а «ў людзей, якія прытрымліваюцца іншай пазіцыі, буд-

## Пракуратура «пераедзе» на Багушэвіча

**Кірэй МАНУЙЛА**

Сталічны гарвыканкам збіраецца да канца года перайменаваць вуліцу Інтэрнацыянальная. Намеснік старшыні гарвыканкама Васіль Гурын гаворыць, што афіцыйнае рашэнне аб гэтым можа з'явіцца ўжо бліжэйшымі тыднямі.

Мяркуецца, што вуліца, дзе цяпер месціцца будынак пракуратуры, будзе падзеленая на дзве. Тая частка, што цягнецца ад вул. Янкі Купалы да вул. Леніна, стане вуліцай Станіслава Манюшкі, а далей – Францішка Багушэвіча. У свой час кампазітар у адным з дамоў на ёй жыў, а паэт працаваў адвакатам. Дарэчы, у старажытнасці Інтэрнацыянальная якраз і ўяўляла сабой менавіта дзве вуліцы: Валоцкую і Зборавую.

Падобныя намеры мінскіх уладаў ёсць толькі частковым выкананнем вуліцапераназоўнай ініцыятывы камісіі Таварыства беларускай мовы па тапаніміцы і геральдычнай сімволіцы. Апрача Інтэрнацыянальнай, ТБМаўцы прапаноўвалі перайменаваць таксама шэраг іншых «саўковых» вуліцаў. У прыватнасці, для ўша-

## Абаронцаў роднай мовы паболела

**Міхась КАЛІНОЎСКІ**

У Лёзне створаная раённая арганізацыя ТБМ. Цяпер новая структура чакае рэгістрацыі ў органах выканаўчай улады. Лёзненская філія – пятнаццатая на Віцебшчыне раённая арганізацыя Таварыства.

Пасля стварэння ў кастрычніку 1997 года абласной рады ТБМ, рух абаронцаў роднай мовы атрымаў на поўначы Беларусі другое дыханне. Зараз Таварыства – адно з найбольш актыўных грамадскіх аб'яднанняў у рэгіёне. Яно налічвае звыш 600 чалавек.

ТБМ на Віцебшчыне ўдзельнічае як у агульнанацыянальных мерапрыемствах у абарону матчынага слова, так і само ладзіць акцыі. Шырокі розгалас атрымаў літаратурна-мастацкі конкурс «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...», які пра-

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
1040

*стар. 6*

# Гадания на морской пучине

**Причина гибели атомной подводной лодки «Курск» остается загадкой. Ограниченность информации, молчание военных, предлагаемые ими объяснения порождают множественность версий причин катастрофы, часто нереальных, и, возможно, предназначенных скрыть зловещую реальность. Автор этого материала рассматривает возможные версии, не отдавая предпочтения ни одной.**

Владимир ТЕМНЫЙ

**Версия первая**. Столкновение. На эту версию работает тот факт, что в районе гибели К-141 были обнаружены сигнальные буи бело-зеленого цвета, которые не используются в ВМФ России, а также некий крупный подводный объект, со временем исчезнувший с экранов локаторов надводных кораблей. Напомним, что «Курск» был водоизмещением 24 тысячи тонн, длиной 154 метра и к тому же с корпусом, усиленным противоледовой броней. Встреча с таким подводным исполином, да еще дующим со скоростью около 20 узлов, помоему, никому из современных обитателей глубин шансов на всплытие не оставила бы.

**Версия вторая**. В результате столкновения с «подводным предметом» появилась течь в районе торпедных аппаратов, что привело к взрыву аккумуляторной ямы и детонации боезарядов. Традиционные боезаряды, по утверждению специалистов, сдетонировать не могли. Но, возможно, на корабле было какое-то новое оружие большой мощности.

**Версия третья**. Лодку протаранило крупнотоннажное судно-траулер, сухогруз, танкер, ледокол и т.д. Форштевень любого из них мог бы изуродовать даже такую мощную субмарину, как «Курск».

**Версия четвертая**. Взрыв торпеды в торпедном аппарате. Штатная учебная торпеда не содержит в себе взрывоопасных компонентов. Однако взорваться могла экспериментальная торпеда с жидкотопливным двигателем.

**Версия пятая**. Подрыв на мине-рогатке времен Второй мировой войны. «Подарки прошлого» время от времени объявляются в этих местах. Однако специалисты полагают, что взрывной силы «рогатки» не хватило бы для столь серьезного поражения лодки, обладающей, помимо мощного корпуса, еще и противоледовой защитой.

**Версия шестая**. Сокрушить прочный корпус атомохода по силам современным глубинным бомбам. Если бы «Курск» попал в район бомбометания (а такое боевое упражнение было в плане учений), то серия взрывов могла бы вывести лодку из строя, не оставив экипажу шанса на спасение.

**Версия седьмая**. Авария при маневрировании. Для лодки длиной 154 метра и водоизмещением до 24 тысяч тонн этот район, можно сказать, мелководье. При маневрировании на глубине корабль мог врезаться в твердый грунт — в нескольких метрах от «Курска» на глубине около 80 метров расположено плато, куда первоначально и могла упасть К-141. В частности, такая ситуация могла возникнуть при быстром погружении после сеанса связи.

**Версия восьмая**. «Чеченский след». Если взрывное устройство большой мощности заложить в районе переборки, отделяющей первый отсек от второго, центрального, то мгновенное затопление двух самых объемных отсеков вполне осуществимо. На удуговском сайте в интернете появилось утверждение, что на лодке был мусульманин-камикадзе. Но случайный человек, тем более гражданский специалист, «просвечивается» органами военной контрразведки, что называется, насквозь.

**Версия девятая**. Диверсия. Взрывное устройство было подложено в расчете на то, что катастрофа такого атомохода, как «Курск», заставит российское руководство отказаться от возобновления военно-морского присутствия в Средиземном море и в Персидском заливе.

**Версия десятая**. Конструкторский просчет. Некая поломка, короткое замыкание, сбой и прочее, что привело к лавинообразному отказу техники и всех систем живучести корабля. Примерно такая картина наблюдалась в случае с «Комсомольцем» в 1989 году.

**Версия одиннадцатая**. Лодка проводила учения по спасению экипажа на глубине более 100 метров, и затопление произошло в результате чьей-то ошибки. В это трудно поверить — экипаж корабля был одним из лучших на Северном флоте. И потом, версия не объясняет характер разрушений, которые явно указывают на мощный взрыв.

**Версия двенадцатая**. «Курск» стал жертвой борьбы за ключевые посты в Вооруженных силах. Возможно, злодеи не рассчитывали на такие последствия, а лишь хотели с помощью запрограммированной поломки создать аварийную ситуацию.

**Версия тринадцатая**. Ошибка при выполнении сценария учений по спасению подводной лодки, терпящей бедствие на глубине 100 метров. Такой пункт учений, по утверждению Агентства военных новостей, был запланирован еще в мае. ■





# Ложь и сталинские методы

Редакционная статья газеты El Mundo

С каждым прошедшим днем и новыми данными становится все очевиднее, что во время трагедии с «Курском» действия российских властей были не только небрежными, но и постыдными. К завесе обскурантизма и дезинформации, окружавшей инцидент с подводной лодкой, в результате которого погибли 118 моряков, сейчас добавились методы, заставляющие вспомнить о самых мрачных годах сталинизма. Телевизионные кадры, на которых матери одного из погибших, которая выражала свой протест российскому вице-премьеру, вкололи в спину успокаивающее средство, явно свидетельствуют о том, что методы, практиковавшиеся в самые суровые годы советской истории, применяются и в новой России. И хуже всего, что российские официальные лица считают вполне нормальным колоть транквилизаторы в спину тем, кто выражает протест.

Правительство Путина направило в район трагедии большую группу психологов и врачей, чтобы они оказали помощь семьям жертв катастрофы. Жутко даже представить, какую помощь они оказывают отчаявшимся родственникам погибших, судя по этим облетевшим весь мир кадрам.

И, кроме того, нельзя не упомянуть о лжи. Норвежские подводники рассказали, что ВМФ России предоставил им недостоверную информацию о морской обстановке в районе трагедии. Им сказали, что там очень сильные морские течения, что видимость практически нулевая и что аварийные люки нельзя открыть. Тем не менее, когда водолазы спустились под воду, то, по их словам, оказалось, что видимость прекрасная, никаких сильных течений нет, и люки открываются без проблем. Это была чрезмерная ложь, которой российское правительство пыталось замаскировать свою собственную халатность – оно запоздало с просьбой о помощи, которая могла бы спасти жизнь морякам. ■

Мадрид

# Возбуждено уголовное дело

По гибели атомной подводной лодки «Курск» возбуждено уголовное дело по статье 263 «Нарушение правил безопасности движения и эксплуатации железнодорожного, воздушного или водного транспорта».

Статья 263 возбуждается в отношении лиц, которые «в силу выполняемой работы или занимаемой должности» обязаны соблюдать правила безопасности движения и эксплуатации морского транспорта. То есть подозреваемыми по этому делу могут проходить только мертвые члены экипажа атомной субмарины. В перспективе они же могут стать обвиняемыми в гибели субмарины. Нарушения этих правил, повлекшие по неосторожности смерть двух или более лиц (часть 3 ст. 263), наказываются лишением свободы на срок от четырех до десяти лет. Именно такое наказание грозит мертвым подводникам.

По ходу расследования уголовного дела статья может быть переквалифицирована на другие статьи Уголовного кодекса России.

При этом эксперты отмечают, что уголовная статья выбрана на редкость мудро. Судно, столкнувшееся с субмариной «Курск», тем более, если оно иностранное, скорее всего, обнаружено не будет. Подозреваемые и возможные обвиняемые – мертвы. Таким образом, основания для прекращения этого уголовного дела подготовлены уже заранее.

При этом парадокс выплаты родственникам подозреваемых по 720 тыс. рублей никого не смущает. ■

Газета.ru

# Ледяная баренцева тьма

Александр КАБАКОВ, писатель

**Все, что может быть сказано по поводу очередного августа, сказано, хотя проклятый российский месяц еще не кончился. У меня к нему особый счет: меня на исходе лета регулярно «кидают». Как пошло с 91-го года, так и продолжается.**



В том августе я поверил, что Ельцин покончит с коммунистами. А он, не успев их победить, немедленно начал плодить эту вредную породу и развел их столько, что через пять лет они его самого едва не проглотили – и нас вместе с ним. И потом каждый год большая или меньшая, но к началу осени обнаруживалась очередная «подстава» для наивных. Между июлем и ноябрем было все: маленькая гражданская война 93-го, взрывы троллейбусов 96-го, грабеж 98-го...

Подлодки тонули и, увы, будут тонуть, но президенты в такие дни не показываются народу в свежем загаре и светлой рубашечке — это стыдно. Все сказано, добавить нечего.

То, что Путин провел почти всю неделю на Черном, а не на Баренцевом море,– это факт. И его даже комментировать нет смысла.

Однако я не о президенте.

Я о великой державе.

За это звание приходится платить, господа и особенно товарищи.

Чем платить – это другой вопрос.

Некоторые члены G7 заплатили за это полным поражением в войне и полным собственным признанием этого поражения. Германия, Япония и Италия стали великими, пройдя через абсолютный разгром, оккупацию, запрет на собственную армию и многолетнее национальное покаяние. России такую цену платить не пришлось – поражение в холодной войне протекает вяло, симптомы не проявляются ярко, процесс переходит в хронический. Но не думаю, чтобы кто-нибудь из тоскующих по величию державы соотечественников согласился платить ту цену, которую заплатили немцы или японцы.

Впрочем, есть и другой путь. Веками тяжко и без передышек трудиться, считая это Божьим, а не мирским делом – как англосаксонские протестанты; накопить немереное богатство; утвердиться в своих моральных ценностях и распространить их на весь мир; победить фашизм и коммунизм за границей, расизм и бессердечие внутри; начать жизнь в новой технологической эпохе. Но для этого надо быть американцами или англичанами (которым вдобавок понадобилось достойно пережить конец империи), или, наконец, французами, сумевшими найти среди себя, когда потребовалось, де Голля. Такую цену мы, может, и готовы были бы заплатить, но ведь тоже не платим! Не работается как-то, терпеть самоограничение не хочется, империи жалко до соплей, а де голли наши выпивают сильно...

И, значит, остается наш, особый российский путь — стать великими, напугав окружающих и даже себя самих до смерти. А в этом деле, как известно, союзников у нас только два — армия и флот! Да здравствуют непобедимые и легендарные, от тайги до британских морей...

Но уже не получается – без штанов и с саблей. И уже никогда не получится. Потому что теперь, чтобы пугать соседей, нужны деньги, а денег нет, потому что их заработать надо, а не украсть. Если ничего не зарабатывать, а только воровать, то на ядерную мощь взять будет негде. Если не научимся хотя бы что-нибудь полезное для людей делать на мировом уровне, то и орудия убийства постепенно начнут представлять угрозу только для нас самих - их даже подкрашивать до уставной красоты будет не на что.

Нельзя иметь ядерный подводный флот и не иметь глубоководных водолазов.

Нельзя вести войну за целостность страны и не платить офицерам, гноить солдат в казармах куда худших, чем азиатские тюрьмы.

Нельзя держать на дежурстве межконтинентальные ракеты, если на базе могут в любую минуту электричество отключить.

Несчастный случай возможен всегда. Подводное плавание – опасное, рискованное занятие. Почти на каждых военных учениях во всех странах гибнут люди – случайный выстрел, отказ техники, неумелые действия... Но оставленные из экономии на берегу хорошие аккумуляторы! Но запасы воды и еды по минимуму! Но не полностью оснащенная спасательная служба!

Так быть не может. Величие нищих осталось в других, более романтических эпохах. Во времена высоких технологий оно не проходит. Остаются только комплексы, заставляющие скрывать катастрофы, врать, делать гордое лицо, отказываться от помощи действительно сильных. Остаются бегающие глаза при хорошей выправке.

Нам не по чину быть великими. На многие годы мы должны смириться с тем, что нам не по средствам воевать и готовиться к войне. Проигравший не должен надуваться и махать тощими кулаками – ему подобает отойти в сторону.

Вот если когда-нибудь разбогатеем, тогда посмотрим.

Но великая Россия все пыжится и все еще сжимает свой уже никуда не годный ядерный штык «своей мозолистой рукой».

А просто Россия задыхается в ледяной баренцевой тьме. ■

Газета.ru

# Новейшая метаморфоза,

## или Незамеченное превращение головастика в лягушку



Экономика развивается, невзирая на то, что телеграфные столбы лежат, а творог мы возим в тачках для цемента

Фота IREX/ProMedia

Константин СКУРАТОВИЧ

**Десятилетие, прошедшее после провозглашения государственного суверенитета Беларуси, последующее развитие страны как самостоятельного государства — хороший повод для инвентаризации результатов. Тем более, что официальная Беларусь говорит в большинстве о достижениях (даже соцсоревнование восстановили), а большинство народа сетует на горькую жизнь и пребывает в прострации.**

### Исходные позиции

Николай Зенькович, который много пишет о тайных пружинах власти, о злых и добрых демонах от политики, под свои рассуждения подводит объективную базу. В частности, он пишет: «Отделившись от Москвы, Беларусь на 100 процентов зависела от России по энергоносителям, на 50-60 процентов по металлу и другим видам сырья. Внешним рынком тоже оставалась Россия. На мировом рынке конкурентоспособно было только 3 процента белорусских товаров». (См.: Тайны уходящего века — 4. — М.: ОЛМАПРЕСС, 2000. — С. 270).

Понятно, что после такой констатации остается признать одно: без Москвы Минску не сделать ни шагу. Однако все это — констатация факта, внешняя сторона явления, за которой трудно увидеть метаморфозу, случившуюся с экономикой после либерализации Россией цен на сырье и энергоресурсы. По сути же произошло качественное изменение, сравнимое с превращением головастика в лягушку, куколки во взрослое насекомое, то есть процесс, с объективной необходимостью вызывающий резкое изменение строения развивающегося организма, его телесной структуры и функций основных органов. Некоторые из них отмирают. Союзный Госплан, например, отмер за ненадобностью.

Приятнее, разумеется, сидеть подобно головастику в теплой луже. Но «лужа», централизованно распределяемые дешевые ресурсы, высохла, и оказалось, что многие промышленные гиганты (сиречь неэффективные, ориентированные лишь на количественное увеличение производства) должны или отмереть, или приспособиться для работы в условиях рынка (минимизация расхода дорогих ресурсов с целью повышения прибыльности). Понятно, что такая необходимость встала не только перед белорусскими предприятиями, но и перед всеми субъектами хозяйствования, каждый из которых имел свое место и функции при плановом разделении труда в бывшем народнохозяйственном комплексе.

### Линии разрыва

Понятно, что российские предприятия не меньше зависели от российских ресурсов, чем белорусские. В этом отношении они, например Ярославский моторный и Минский автомобильный, были ближайшими родственниками. Каждое из них имело хозяйственные связи с сотнями партнеров во всем СССР, но рынок моментально выявил их неэффективность (оказалось, что предлагаемая ими для продажи продукция стоила дороже, чем за нее могли заплатить партнеры). Поэтому разрывы произошли не столько по линиям вдруг возникших государственных границ, хотя и по ним тоже, а в местах нестыковки экономических интересов. Порой даже между цехами одного и того же предприятия и даже производственными участками одного и того же цеха.

У рынка ведь свои представления о том, что нужно производить, а чего лучше не делать. Кроме того, даже нужные потребителю товары идут в ход только тогда, когда на них существует платежеспособный спрос. То есть у потребителей, будь-то рядовые граждане или предприятия, должны быть деньги. Именно они связывают географическое пространство в экономическое. По этой причине, первое, что делают все государства на переходе к рыночной экономике, — это обуздание инфляции, укрепление национальной валюты, создание предпосылок для ее конвертации. В этом случае предприятия получают возможность осваивать любые рынки в объеме, соответствующем своим финансовым возможностям. И будь наша валюта конвертируемой, мы могли бы налаживать связи не только с Россией, но и со всем остальным миром.

Понимание новизны ситуации отсутствует до сих пор. В этом смысле классическим образцом можно считать заявление А.Лукашенко в Госдуме о том, что «Минск сегодня, при условии восстановления хозяйственных связей с ним, будет давать 2 млрд. USD чистой прибыли России — вот цена Договора о Союзе». Белорусская ССР и раньше приносила ощутимый довесок в казну СССР — 3 млрд. USD.

В том, что касается СССР, всякие расчеты экономической эффективности в СКВ лишены всякого смысла, поскольку цены здесь определялись по себестоимости, и их валютный эквивалент можно было определить только исходя из стоимости израсходованных для их производства ресурсов, будь они проданы на мировом рынке. Более того, как подсчитали еще советские экономисты, торговля отходами производства для СССР была бы выгоднее экспорта готовой продукции. Помните анекдот про «советские микрокалькуляторы — самые крупные в мире»?

Плоть от плоти, кровь от крови советской, БССР не представляла собой исключения. Для того, чтобы показать мнимый рост производства валовой продукции, применялся так называемый повторный счет. Например, союзное министерство под видом специализации переименовало завод тракторных запчастей в Минске в завод шестерен. После этого (специализация!) из номенклатуры предприятия был исключен коленчатый вал, который поставлялся Волгоградскому тракторному заводу. Тем не менее, кузнечный цех попрежнему штамповал эти валы и отправлял Уральскому механическому заводу для механической обработки и отправки затем в Волгоград. Штампуют в Минске шестерни и два вида коленвалов, которые отправляют на механическую доработку в Ворошиловград. Минскому заводу передано изготовление трех видов шестерен для Павлодарского тракторного завода, которые раньше для них выпускал омский «Сибзавод». Зачем же все эти дальние переброски?

А затем, что стоимость одних и тех же деталей, побывавших в разных руках трижды, а то и четырежды, включается в объем реализации на всех смежных заводах. Этим самым высокие темпы роста производительности труда в отрасли достигаются найлегчайшим путем. Например, выпуск трех типов шестерен, переданных с «Сибзавода», увеличил МЗШ реализацию более чем на два миллиона в год, что обеспечило ему треть запланированного на пятилетку темпа роста и объема производства.

За счет таких «хозяйственных связей» в основном прирастала не только союзная казна, но и денежные доходы трудящихся. Правда, не в долларах, а в родных советских рублях. В конечном итоге их накопилось у народа столько, что рубль обеспечивался товарной массой всего на 11 копеек. Эти деньги надо было изымать. Поскольку товаров не было, попробовали хитростью. Сменивший на посту премьера Рыжкова будущий путчист Павлов затеял обмен крупных купюр в пределах энной суммы, сверх которой трудовые накопления замораживались в Сбербанке (в месяц со своего счета трудящийся мог снять 500 рублей). Деньги попробовали выманить, взяв у населения кредиты под дефицитные товары, которые еще предстояло произвести. Помогло, но мало.

Сегодня «плачущие большевики», разгребая цифирь официальной статистики прежних лет, негодуют: в 1990 году на величину среднемесячного душевого дохода в домашнем хозяйстве можно было купить 100 кг сахара и 70 кг мяса. А сейчас? Вот до чего довели Рынок, Демократы, Кебич и БНФ. Из всех перечисленных фигурантов нам лично обидно только за Рынок, потому что все остальные оказались не на высоте. Рынок же сделал то, что делал всегда и везде: привел в соответствие предложение и спрос.

Во всем мире люди женятся и разводятся. Советские не исключение, но социальные особенности есть. У нас иногда развевшиеся супруги до конца дней проживали в одной комнате коммунальной квартиры и спали на одном и том же диване. Не всегда «валетом». Но такое вынужденное стремление двух тел «занимать одно место» в данной ситуации было и безнравственным, и малопродуктивным. В отношении ставшего независимым государства оно преступно.

### Можно было и по-китайски

Для того, чтобы создавать экономику экономическими методами, исходя из новых обстоятельств, основным из которых стало наличие независимого государства, политической воли мало. Необходимо еще ощущение детерминации из будущего, понимание того, какой должна стать страна, чтобы не превратиться в изгоя. Политический прагматизм, избранный первым правительством независимой Беларуси, мало этому способствовал. Он затормозил осознание того достаточно простого обстоятельства, что для выхода из глубочайшего кризиса необходима столь же глубокая модернизация. Надо было пройти путь к осознанию того, что Беларусь надо не столько возрождать, сколько строить заново. Что ориентиром не могут быть ни ВКЛ, ни БССР. Что единственной ценностью, главным ресурсом независимой страны является ее государственный суверенитет, позволяющий выстраивать равноправные отношения со всеми партнерами, преодолевая былую зависимость, определенную стратегическими интересами коммунистической империи — СССР.

Собственно, для этого не надо было делать никаких резких движений. Не надо было пугать себя и народ ужасными последствиями шоковой терапии в той же Польше или Литве. Если страшно было рвать пуповину «хозяйственных связей», можно было приступать к созданию новых, рыночных. Для этого надо было сделать простую вещь, дать предприятиям свободу и дать равные права всем субъектам хозяйствования независимо от их ведомственной принадлежности и формы собственности. Именно так поступили практически все наши соседи, и рынок моментально расставил все по местам: выгодные отношения сохранились и расширились, а невыгодные, существовавшие благодаря социалистической «обязаловке» (разрушительные для экономики), исчезли, как дым.

В конечном итоге можно было пойти и «китайским путем»: сохранить преференции для основной части госпредприятий, одновременно убрав все препятствия на пути развития частной инициативы.

Но вместо дела мы только и слышим, как «лидер» ерничает: «бульбачки, трошачку мясца...» ■

# «Маладая Грамада» за вырашальныя змены

Сяргей БЯЛЕВІЧ

**У 1994 годзе на айчынным небасхіле няўрадавых арганізацыяў з'явілася Беларуская сацыял-дэмакратычная моладзь «Маладая Грамада», якая ўзнікла як маладзёжная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1996 арганізацыя была зарэгістраваная ў міністэрстве юстыцыі РБ. Падчас перарэгістрацыі 1999 г. арганізацыя вымушаная была змяніць назву на грамадскае аб'яднанне «Маладая Грамада», аднак быў захаваны статус палітычнай маладзёжнай арганізацыі.**

За чатыры гады свайго існавання «Маладая Грамада» сталася адной з самых шматлікіх маладзёжных арганізацыяў краіны. На сёння ў сваіх шэрагах яна налічвае каля 1.000 сябраў з розных рэгіёнаў Беларусі, у яе склад уваходзяць 22 тэрытарыяльныя арганізацыі. Шэрагі МГ пастаянна папаўняюцца за кошт валанцёраў – людзей, якія, папрацаваўшы разам з МГ, паступова становяцца яе паўнавартаснымі сябрамі. Адпачатку МГ дэкларавала мэты, блізкія кожнаму маладому чалавеку ў Беларусі, і перш за ўсё – прапаганда і адстойванне каштоўнасцяў сацыяльнай дэмакратыі. Маладаграмадоўцы ведаюць, што для пабудовы сапраўднай сацыяльна дэмакратычнай дзяржавы трэба, каб у свядомасці кожнага чалавека непахіснымі былі паняцці «свабода», «роўнасць», «салідарнасць», «сацыяльная справядлівасць» і «прыярытэт правоў чалавека».



Сёння на пытанні журналіста адказвае старшыня МГ Таццяна Алесіна.

***— У якіх узаемадачыненнях знаходзяцца МГ і БСДП (Народная Грамада)?***

— Наша арганізацыя падтрымлівае даволі цесныя кантакты з БСДП (Народная Грамада), — кажа Таня. – Шасцёра з семі сябраў прэзідыума МГ з'яўляюцца сябрамі партыі, трое з іх – сябры ЦК. Зімою 2000 г. на пасяджэнні ЦК БСДП (Народная Грамада) МГ была прызнаная братэрскай арганізацыяй партыі. Сябры МГ разам са старэйшымі сябрамі бралі ўдзел у вулічных акцыях апазіцыі, актыўна ўдзельнічалі ў партыйным жыцці: партыйных з'ездах, распрацоўцы Канцэпцыі маладзёжнай палітыкі партыі, выданні партыйнай праграмы і г. д.

***— Ці грамадскае аб'яднанне «Маладая Грамада» і «Маладыя сацыял-дэмакраты» адна і тая ж арганізацыя?***

— Зусім не. На жаль, у выніку некаторых разыходжанняў МГ з пэўнай часткай кіруючага складу БСДП (НГ) і па ініцыятыве апошняй на свет з'явілася групоўка моладзі, якая называе сябе «маладымі сацыял-дэмакратамі» і ў сваёй дзейнасці кіруецца выключна рашэннямі партыі. У адрозненне ад іх, МГ пакідае за сабою права самастойнага прыняцця рашэнняў, у тым ліку і палітычных.

***— Вядома, што сёлета дэлегацыя МГ ездзіла на маладзёжны фестываль IUSY, які сабраў больш за 6.000 удзельнікаў з усяго свету. Што цікавага там адбывалася?***

— МГ з'яўляецца сябрам *IUSY* (*International Union of Socialist Youth*) – Міжнароднага саюза сацыялістычнай моладзі, які аб'ядноўвае сацыял-дэмакратычныя, лейбарысцкія арганізацыі з больш чым са краінаў свету. *IUSY* раз на чатыры гады ладзіць маладзёжныя фестываль, які сёлета адбыўся ў Мальмё (Швецыя). Упершыню палітычна актыўная моладзь краіны атрымала магчымасць распавесці пра працэсы станаўлення дэмакратыі ў Беларусі перад вялікай шматнацыянальнай аўдыторыяй. Падчас фестывалю былі зладжаныя сустрэчы з прадстаўнікамі шведскай урадавай фундацыі *Olof Palme Center*, з шведскімі дэмакратамі, з Маладымі сацыял-дэмакратамі Германіі. Паспяхова прайшлі семінары «Будучыня дэмакратыі ў Беларусі», «Студэнцкі рух у Беларусі». Удзельнікам фестывалю былі прадстаўленыя набыткі традыцыйнага беларускага мастацтва.

27 ліпеня, у Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, на вуліцах Мальмё адбылася дэманстрацыя «*The Power of Solidarity*», на якой нашая дэлегацыя ішла пад бел-чырвона-белымі сцягамі, — мы сапраўды адчулі падтрымку і моц салідарнасці ўсяго свету з нашай краінай.

На жаль, з прычыны летніх адпачынкаў не ўсе здолелі своечасова сабраць дакументы для атрымання візы. Тым больш шкада, што сярод сябраў арганізацыі апынуліся людзі, якія аказаліся негатовымі для сумеснай салідарнай працы на карысць ідэяў, дзеля якіх і створаная нашая арганізацыя.

***— Таня, якраз падчас знаходжання дэлегацыі МГ на IUSY-фестывалі дэмакратычную апазіцыю краіны ўскалыхнула навіна пра тое, што БСДП (НГ), нібыта падтрымліваючы ідэю няўдзелу ў выбарах 15 кастрычніка, фактычна дазволіла сваім сябрам балатавацца ў «палату». Як ставіцца да г.зв. «парламенцкіх выбараў» «Маладая Грамада»?***

— Так, мы былі ў курсе гэтых падзеяў. Па прыездзе на працягу некалькіх тыдняў праходзілі сустрэчы сябраў МГ, вяліся дыскусіі па гэтым пытанні. У выніку было прынятае рашэнне падтрымаць рэзалюцыю Кангрэса дэмакратычных сілаў аб стаўленні да выбараў 15 кастрычніка і выказаць адназначна негатыўныя адносіны да іх нашай арганізацыі.

Ужо бліжэйшым часам МГ плануе правесці акцыю ў падтрымку прыняцця закона аб альтэрнатыўнай вайсковай службе – згадзіцеся, вельмі актуальная праблема для юнакоў перад восеньскім прызывам. Маладаграмадоўцы плануюць правесці серыю мерапрыемстваў па праблемах сацыял-дэмакратыі ў Беларусі, прысвечаных 100-годдзю беларускай сацыял-дэмакратыі. І безумоўна, МГ мае намер прыняць чынны ўдзел у «Гарачай восені-2000». Моладзь як ніхто разумее, што наступае вырашальны час для зменаў у краіне. ■

АКЦЫІ

# ФПБ дэманструе падтрымку, якой няма

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

**24 жніўня ў Мінск на двухдзённы «сэйшн» з'ехаліся кіраўнікі прафсаюзных арганізацыяў васьмі краінаў СНД: Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расіі, Таджыкістана і Украіны. Афіцыйнай прычынай для такой прадстаўнічай сустрэчы заяўлялася неабходнасць абмеркаваць праблемы «Прафсаюзы і інтэграцыя. Пра стан прафсаюзнага руху і выкананне правоў прафсаюзаў у краінах СНД». На самой справе – і гэтага ніхто не хаваў – лідэры прафцэнтраў СНД прыехалі ў беларускую сталіцу, каб прадэманстраваць маральную падтрымку Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, па ініцыятыве якой гэтая сустрэча і арганізаваная. На прэс-канферэнцыі адзін са старшыняў сказаў: «Усе мы разумныя людзі і разумеем, чаму тут сабраліся».**

Між тым, ніхто, апрача старшыні Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі (ФНПР) Міхаіла Шмакава, адкрыта не выказаў падтрымку ФПБ. М.Шмакаў 11-12 ліпеня ўжо прыязджаў у Мінск у складзе дэлегацыі міжнароднай Канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў у адказ на скаргу трох галіновых прафсаюзаў ФПБ і БКДП пра парушэнне іхніх правоў беларускімі ўладамі. Цяпер, на думку функцыянера ФНПР, «становішча яшчэ больш пагоршылася». Ціск беларускіх уладаў на прафсаюзы ўзмацніўся. Міхаіл Шмакаў паабяцаў «вельмі цяжкую сітуацыю для беларускага ўрада», калі палітыка ўдушэння ФПБ будзе працягвацца. Найперш, М.Шмакаў як дэпутат Дзярждумы збіраецца накіраваць запыт у МЗС Расіі, каб праясніць адносіны знешнепалітычнага ведамства да парушэння правоў прафсаюзаў у «саюзнай» Беларусі. Па-другое, М.Шмакаў не выключае магчымасць, што ФНПР ініцыюе прыняцце эканамічных санкцыяў да Беларусі ў рамках Саюза Беларусі і Расіі. Эканамічны ціск на беларускія ўлады Міхаіл Шмакаў лічыць «непажаданым» развіццём падзеяў і хоча спадзявацца, што ў кіраўніцтве рэспублікі «розум возьме верх над эмоцыямі».

Між тым, старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык вельмі нервова адрэагаваў на заяву расійскага калегі пра магчымыя эканамічныя санкцыі. «Мы супраць прымянення эканамічных санкцыяў да Рэспублікі Беларусь у любым выглядзе. З практыкі іншых краінаў мы ведаем, што яны не прыводзяць да патрэбных вынікаў – цярпець простыя людзі. Мы лічым, што яшчэ не вычарпаныя ўсе палітычныя крокі, якія могуць садзейнічаць паляпшэнню сітуацыі ў РБ», – сказаў Уладзімір Ганчарык. Гэтая заява цалкам упісваецца ў палітыку, якую апошнія гады праводзіць ФПБ на чале з У.Ганчарыкам, — «і нашым, і вашым». Аднак у прыродзе не бывае такога, каб і ваўкі насыціліся, і авечкі засталіся цэлымі. Так што, відавочна, за што прафсаюзы збіраюцца бароцца, на тое яны і напоруцца.

Між тым, двухдзённы «сэйшн» закончыўся для ФПБ вельмі нечакана: ніякай заявы ў падтрымку Федэрацыі ў Брэсце (менавіта там знаходзіліся лідэры прафсаюзаў СНД 25 жніўня) не прынята. Цэнтральнаазіяцкія прафсаюзнікі ўспрынялі ў штыкі ідэю заявы ў падтрымку беларускіх калегаў, так што па выніках візіту прынятае толькі выхалашчанае камюніке. ■

ПОШТА

# Авторитаризм всегда в «ежовых рукавицах»

Обычно в преддверии 1 сентября внимание наших граждан приковано к началу учебного года в школе. Это вошло в народную традицию и занимает людей сильнее, чем память о припадающем на этот день начале Второй мировой войны и осмысления ее уроков. Для выражения эмоций по этим поводам у нас приняты другие даты – 22 июня и 9 мая. С первой ассоциируется «коварное нападение гитлеровской Германии», со второй – «спасение Европы и мира от коричневой чумы». Таким образом, два этих дня, сопряженные с потерями на войне 27 миллионов советского населения, служат утверждению патриотических чувств без рефлексии по поводу недостатков собственной политсистемы. В отношении Беларуси это правда, поскольку мы – одна из жертв войны (3 миллиона погибших и территориальные потери).

Трагический день 1 сентября 1939 года, который на шесть лет ввергнул сотни миллионов людей в 6-летнюю войну и обошелся в 55 миллионов убитых, в нашей стране не отмечается собраниями, речами, венками к памятникам и рассказами ветеранов. У нас – это День знаний. Знаний в школьном формате – физических, химических, биологических, литературных. В меньшей степени – исторических, и совсем в никакой – знаний о новейшей истории, в которой мы живем. Живем – и слава Богу.

1 сентября 1939 года мало затронуло население СССР, поскольку нападению подверглась «буржуазная Польша» (вместе с ней Западная Беларусь). О том, что война началась согласно тайно подписанному между Сталиным и Гитлером Пакта о переделе сфер влияния, никто не знал тогда, а сейчас многие в это отказываются верить. Когда не знаешь или не веришь – нет предмета для раздумий и выводов. Полная ясность: немцы напали на Польшу, но СССР защитил Западную Беларусь, Западную Украину, а заодно присоединил Бессарабию, прибалтийские республики и отодвинул от Ленинграда границы (отобрал у Финляндии кусок территории, погубив для этого десятки тысяч солдат). Затем фашисты обманули Сталина и пришли устанавливать коричневый порядок вместо красного. Поэтому наши жертвы священны.

И гитлеровская Германия весной 1945, и самурайская Япония в августе того года были повержены, как говорится, в прах. Сегодня эти фениксы вышли в передовую семерку стран мира. По всем экономическим показателям, и что наиболее раздражает — по уровню жизни населения. Они осмыслили уроки войны и поставили экономику впереди тоталитарной идеологии. Трое из четырех победителей — Франция, Англия, США — также в семерке лидеров. Россия и, разумеется, Беларусь как былые части СССР пребывают в состоянии экономического и политического кризиса. По словам местных госдеятелей, — из-за Вискулей. Мол, развалили великую державу – получили в результате нищету. Все это, натурально, ложь ностальгирующих империалистов, но множество людей, привычных к тотальному управлению своими судьбами сверху, ей верят.

Гордость тем, что «великая держава» в 1945 победила фашизм, позволяет забывать, что после пяти лет войны с нацизмом еще восемь лет народам «великой державы» пришлось жить под гнетом сталинской автократии, в атмосфере тотального террора, ничем не лучше гитлеровского, если сравнивать по количеству концлагерей, заключенных, бесправию личности везде и во всем. В такое же состояние «передового отряда человечества» были переведены сроком на сорок лет и многие «освобожденные народы Европы» для строительства «лагеря мира и социализма». Как и во всяком лагере, в нем действовала иерархическая пирамида.

Когда в 80-е годы ворота «лагеря социализма и мира» растворились, обретенная свобода ознаменовалась широкомасштабной вспышкой насилия (как в «холодное лето 53-го» насилием со стороны вызволенных уголовников). Идеи «Великой Сербии» отозвались геноцидом по расовому признаку против боснийцев и хорватов, а затем против албанцев. Россия начала первую войну в Чечне для сохранения «конституционного пространства», а затем вторую, которая тянется по сей день, чтобы избавиться от «чеченского синдрома» и уничтожить саму мысль о возможности отделения от России.

Раздумывая над этим накануне 1 сентября, поневоле приходишь к мысли, что мы ничему не научились на опыте Второй мировой войны. Власти придерживаются сталинских принципов – все решает сила, править приятно в одиночку – и поэтому не могут придумать ничего более умного, чем взять реванш. В одряхлевших колхозах, в культивировании неприязни к Западу и NATO, в возрождении советской империи зла под расовыми лозунгами исключительности славянского мира, в благоприятствовании средневековым предрассудкам об особой миссии русского православия. И это все, чему научились люди, приходящие к власти. Государственная идеология, как и прежде, направлена на подчинение личности государству.

Если мы желаем приблизиться по условиям человеческого существования к европейским народам, к тем, кого победили в той войне, то должны осмыслить, что это невозможно в условиях тоталитарного мышления, автократии, нетерпимой к инакомыслию и законам, которые желают его ограничить. Должны осмыслить, что страной и народом управляет не физическое лицо (президент, «батька»), а Закон. Потому что, в отличие от автократов, Закону не нужен личный реванш и личное подавление оппозиции и инакомыслия. ■

**Александр ФИЛИППОВИЧ,**
**Брест**

ІНТЭРФАКС

## Царь Симеон II будет президентом?

Болгарский царь в изгнании Симеон II, возможно, отречется от престола с тем, чтобы баллотироваться в президенты страны на выборах в 2001 году. Как сообщила софийская газета «24 часа» со ссылкой на лидера промонархистской Федерации «Царство Болгария» Христо Куртева, Симеон II отречется от престола уже в сентябре. К этому времени Народное собрание, как ожидается, рассмотрит проекты поправок к избирательному закону. В случае их принятия будут сняты формальные преграды для участия царя в изгнании, проживающего в эмиграции, в президентских выборах. Согласно прогнозам местных политологов, Симеона II готова выдвинуть своим кандидатом в президенты коалиция Союз национального спасения, в которую, в частности, входят Движение за права и свободы и Федерация «Царство Болгария». В то же время эксперты не исключают, что кандидатуру царя может поддержать правящий блок Объединение демократических сил. По некоторым сведениям, его функционеры уже предлагали Симеону II баллотироваться от их блока. Возможное участие царя в выборах одобрила даже оппозиционная Болгарская социалистическая партия, преемница бывшей компартии. ■

## Шоколад как средство борьбы с кариесом

Дни, когда ингредиентом зубной пасты станет шоколад, возможно, скоро наступят. Так пишет британская газета «Таймс», ссылаясь на сенсационные выводы японских стоматологов. Как показали результаты исследований в университете города Осака, бобы какао–исходный материал при изготовлении шоколада – содержат вещества, которые нейтрализуют бактерии, разрушающие зубную эмаль. При этом полезные вещества содержатся не в мякоти бобов, идущих в пищу, а в их кожуре, обычно выбрасываемой при предварительной обработке. Д-р Такаси Оосима, руководивший исследованиями в Осаке, сказал британским журналистам: «Возможно, экстракт из кожуры бобов какао можно будет добавлять в зубную пасту или в полоскания для полости рта». Он сослался на опыты на крысах, которым давали этот экстракт, добавленный в питьевую воду. У особей, которые его получали, дупла в зубах образовывались значительно реже, нежели у тех, кто такого снадобья не получал. «Таймс» приводит и скептические высказывания британских стоматологов об открытии японских коллег. ■

## Признаки жизни на одном из спутников Юпитера?

Американские ученые полагают, что на Европе может существовать жизнь: речь, конечно же, идет о спутнике Юпитера, чье имя совпадает с названием земного континента. Журнал «Сайенс» сообщает, что ученые Калифорнийского университета обнаружили свидетельства того, что примерно в 7,5 км под поверхностью Европы существует настоящий океан. Признаком этого служат скопления льда, обнаруженные на поверхности планеты. Однако, по их словам, может оказаться, что вода давным-давно замерзла, и тогда шансы на обнаружение жизни на этой планете будут сведены к нулю. Кроме того, еще неизвестно, какой водой наполнен этот океан – соленой или пресной. Впрочем, отмечают ученые, известно, что жизнь на Земле существует везде, где есть вода, а значит, существуют шансы на обнаружение инопланетных «европейцев», пусть даже они и окажутся всего лишь бактериями. ■



# Третий путь – путь правых

Гэри С. БЭКЕР,
Нобелевский лауреат, профессор экономики и социологии Чикагского университета

**«Только де Голль мог освободить Алжир; только Никсон мог договориться с Китаем». За этими лозунгами скрывается один заслуживающий внимания принцип: личный интерес зачастую побуждает политические партии радикально отклоняться – и даже отказываться – от их традиционных идеологий. Это «знание» полезно при изучении действий европейских правительств (в особенности) и теперь уже многих правительств по всему миру, относящих себя к лагерю социалистов и принадлежащих к левому крылу.**

В конце пятидесятых Франция находилась на грани гражданской войны из-за вопроса о статусе Алжира. Шарль де Голль, отстраненный от власти в 1946 году, был призван назад на Елисейские Поля для того, чтобы вывести Францию из этого тупика. Патриотизм де Голля сыграл решающую роль – де Голль, казалось, был единственным, кто был в силах действительно освободить Алжир.

Установление дружественных связей в конце шестидесятых между Китаем, находящимся тогда под руководством Мао, и Америкой было возможно только потому, что Китай был вовлечен в политический и военный конфликт с Советским Союзом. Американские демократы знали об этом не хуже республиканцев, но президент Джонсон сторонился контактов с Китаем потому, что его партия была якобы лояльной к коммунизму. Только такой преданный антикоммунист, как Никсон, сумел обрести достаточно поддержки у правого крыла и получить добро на посещение Китая с целью инициации сотрудничества между двумя странами против их общего врага в Кремле.

Экономика не имеет иммунитета к этой тенденции. Рональд Рейган и Маргарет Тэтчер преуспели в понижении налога на прибыль, приватизации государственных предприятий, оказании влияния на ослабление профсоюзов и уделении меньшей роли самому правительству. Популярность и успех их программ побудил либеральные, рабочие социал-демократические правительства в разных странах развивать политику свободной торговли в противоречие своим традиционным идеологиям. В большинстве случаев только такие партии имеют достаточно политической поддержки «слева» – именно то, что им необходимо для удачного проведения насущных реформ на рынке труда и в других областях.

Рыночные преобразования, начатые левыми, впервые имели место в 1984 году в Новой Зеландии, правительство которой приняло закон, позволивший трансформировать прежде изолированную нацию в одно из государств с наиболее либеральной экономикой. Новозеландские лейбористы приватизировали почтовую сеть и многие другие государственные предприятия, перестроили систему труда – высоко централизованная коллективно-договорная система была заменена такой, при которой работодатели получили дискретное право принимать и увольнять и платить заработную плату, определяемую рынком.


Новозеландский сельский пейзаж


Знаменитые новозеландские коровы – опора экономики

Демократическая Партия США в прошлом решительно поддерживала большой штат правительства, но при президенте Клинтоне демократы, взяв на заметку факт популярности республиканцев, начали выступать за ослабление патернализма и примкнули к сторонникам идеи сокращения правительства. Это был Клинтон – не Буш и не Рейган, кто провозгласил конец эры «больших» правительств, находясь во главе администрации, радикально изменившей традиционные позиции демократов в отношении таких вопросов, как всеобщее благосостояние, сбалансированные бюджеты, сокращение государственного долга и поощрение бизнеса.

Наглядный пример похожего развития можно найти, анализируя экономическую политику Мексики в 1980–90-х годах. Институционная Революционная Партия (*PRI*), пребывающая у власти на протяжении семи десятилетий (вплоть до недавнего ее проигрыша президентства Винценту Фоксу), твердо отстаивала позиции правительства в безраздельном контроле над тяжелой промышленностью, а также в эксклюзивном праве на импорт с целью защиты отечественных компаний и строгом управлении рынками труда и финансов. Однако в начале 1980-х *PRI*, в ответ на критику низких экономических показателей со стороны приверженцев свободной экономики, распродала большое количество принадлежащих правительству предприятий, частично приватизировала систему социального обеспечения и активно пропагандировала соглашение о свободной торговле со своим большим «врагом» на севере – США. Итак, президенту Фоксу необходимо только содействовать начатым преобразованиям, а не изобретать что-то новое.

Сенат Аргентины недавно отреагировал на высокий уровень безработицы, утвердив проект закона, который ограничивает власть профсоюзов и предоставляет больше свобод работодателям в регулировании процесса занятости. Данная реформа является «делом рук» нового левоцентристского правительства г-на Фернандо де ла Руа – это после провала попыток реформировать рынок труда предыдущим консервативным правительством Карлоса Манема.

К примерам теорий "де Голль/Алжир" и "Никсон/Китай", представляющим наибольший интерес, можно, по всей видимости, отнести перемены, произошедшие за последнее время в политике как Германии, так и Франции. Обе нации едва справлялись с безработицей и испытывали медленный рост в 1990-х из-за жестких правил в управлении рынком труда и прочих рынков. Судя по результатам проведенных реформ, консервативным правительствам этих стран нечем гордиться – кроме многословной риторики разве что Жоспену и Шредеру была предоставлена власть «в обмен» на обещания обуздать безработицу и повлиять на рост посредством более тесного вовлечения правительства в контроль за экономикой.

Каждый из этих режимов действительно начинал с предписания дополнительных функций правительству (здесь следует упомянуть закон о введении 35-часовой рабочей недели во Франции). Но оба правительства довольно скоро и уверенно поменяли курс. Герхард Шредер, в Германии существенно сократил корпоративные налоги, поддерживает компании-«новички» и обещает также разработать облегченную систему налогообложения, применяемую к частным пенсионным фондам. Французский премьер Жоспен, тем временем, либерализовал рынок труда, популяризовав частичную занятость, увеличил масштаб приватизации и развил финансовую систему с ограниченным контролем над ней правительства, поставив ее тем самым на конкурентный уровень по мировым стандартам.

Если Никсону удалось договориться с коммунистическим Китаем и де Голль сумел разрешить алжирский кризис, то для социалистов путь к свободному рынку и низким налогам не должен быть сопряжен со сравнительно большими трудностями. В политике, так же как в жизни, идеология обычно уступает личному интересу.



КНІГАРНЯ

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй зьбяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойны для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13). У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі.




Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.

Аптовы продаж выдання: Лешэк Бальцэровіч. «Сацыялізм. Капіталізм. Трансфармацыя». **239-15-32**.







Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 633 Нумар падпісаны ў друк 28/08/2000 (18.00) Наклад – 8.890